Наш адрас у Інтэрнэце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
30 жніўня 2001 г.
№ 35 (531)
Кошт 110 рублёў

## Гарачая лінія чытачоў ПАГОНІ з Ганчарыкам не адбудзецца. Ганчарык адмовіўся прыняць у ёй удзел...

**Абвешчаная ў мінулым нумары гарачая лінія з кандыдатам у прэзідэнты Уладзімірам Ганчарыкам не адбудзецца. За некалькі гадзінаў да выхаду ў свет гэтага нумару пра гэта паведаміла супрацоўніца выбарчага штабу прэтэндэнта на высокую дзяржаўную пасаду Вольга Мікша.**

Склалася ўражанне, што гарачая лінія, узгодненая дзесяць дзён таму з прэс-сакратаром Уладзіміра Іванавіча Зміцерам Верашчагіным, не адбылася таму, што «штабісты» папросту праігнаравалі інтарэсы васьмі тысячаў чытачоў ПАГОНІ, а таксама свайго кандыдата.

Для цікаўных паведамляем, што сёння, 30 жніўня, ў 18 гадзін на плошчы Леніна ў Гродна пачнецца канцэрт Яраслава Еўдакімава і сустрэча з Уладзімірам Ганчарыкам. З 19.30 да 21 гадзіны Еўдакімаў і Ганчарык будуць выступаць у мікрараёне «Вішнявец» (на стадыёне каля школы). Потым плануецца іх вяртанне ў цэнтр горада. З 21 гадзіны да 22 гадзінаў 20 хвілінаў аналагічная сустрэча адбудзецца на плошчы Савецкай.

**Ул. інф.**

## Студэнты будуць ездзіць «зайцам»

**З 1-га па 30-е верасня студэнты дзённай формы навучання вышэйшых, сярэдніх спецыяльных навучальных установаў і прафесійна-тэхнічных вучылішчаў па пятніцах, суботах, нядзелях і панядзелках маюць права на бясплатны праезд у рэгулярных прыгарадных і міжгародніх аўтобусных і чыгуначных маршрутах (агульных і плацкартных вагонах), якія курсіруюць у межах нашай краіны.**

- Я не магу ўявіць, якія страты панясе чыгунка, - гаворыць ПАГОНІ кіраўнік пасажырскай службы гарадзенскага чыгуначнага вакзала Леанід Лапко. - Як будуць кампенсаваныя гэтыя выдаткі, павінны вырашыць Савет Міністраў нашай краіны і рэспубліканскае кіраўніцтва чыгункі. Звычайна мы «выжывалі» за кошт грузавых перавозак.

Дырэктар гарадзенскага аўтавакзала Іван Шарэйка паведаміў:

- 50 працэнтаў прыгарадных выдаткаў кампенсуе раённы бюджэт нашай вобласці, а ўсе астатнія - пакуль невядома.

Добра, канешне, што падчас прэзідэнцкіх выбараў узгадалі пра вялікую армію студэнтаў. Аднак і без гэтага маларэнтабельным аўта- і чыгуначным вакзалам наканаваны жабраваць.

**Захар Штрэна**



### НАДВОР'Е

**31 жніўня і 1 верасня** - пераменная воблачнасць, без ападкаў. Вецер няўстойлівы, слабы. Тэмпература паветра **31 жніўня** - удзень +15...+20, уначы +3...+8, месцамі на глебе замаразкі да 0...-1. Тэмпература паветра **1 верасня** - удзень +17...+22, уначы +5...+10.




## Гарадзенскія пракуроры непісьменныя. А старшыня Дзяржкамдруку хлусіць

**Арыгінальным чынам адрэагаваў на заяву Беларускай асацыяцыі журналістаў аб недапушчальнасці ўмяшальніцтва ў дзейнасць незалежнай газеты ПАГОНЯ пракурор Гарадзенскай вобласці Васіль Літвінаў. У адказ на папярэджанне аб незаконнасці дзеянняў пракуратуры адносна ПАГОНІ, спадар пракурор накіраваў у Гарадзенскі гаспадарчы суд матэрыялы аб закрыцці газеты. Аднак, у сувязі з тым, што зыск быў аформлены непрафесійна, суддзя Кулакоўскі 16 жніўня адправіў гэтыя матэрыялы назад, у пракуратуру.**

Мы не здзіўляемся непрафесійнасці лукашэнкаўскіх пракурораў. Здзіўленне выклікае тое, што яны дзеля таго, каб дагадзіць свайму Босу, не выконваюць свае, лукашэнкаўскія законы. Напрыклад, не было выкананае патрабаванне артыкула 16 Закона "Аб друку", якое ў якасці фармальнай падставы для закрыцця газеты прадугледжвае наяўнасць у газеты не менш двух папярэджанняў па пятым артыкуле Закона "Аб друку" напрацягу года. Для даведкі: на працягу года такое папярэджанне ПАГОНЯ мела толькі адно - у кастрычніку мінулага года.

Звяртае на сябе ўвагу, што справа аб закрыцці ПАГОНІ разглядалася ў абстаноўцы глыбокай таямніцы. Атрымліваецца, што каб засудзіць крымінальнага злачынцу, нават забойцу, перад судом яму прад'яўляюць абвінавачванне і даюць магчымасць пазнаёміцца з матэрыяламі справы. У нашым выпадку, як бачым, такія буржуазныя ўмоўнасці з'яўляюцца неабавязковымі.

Больш таго, 22 жніўня ў трох інфармацыйных выпусках БТ старшыня Дзяржкамдруку даводзіў мільёнам тэлегледачоў, што газета ПАГОНЯ атрымала афіцыйнае папярэджанне за распаўсюд недаставернай інфармацыі. Аднак, як высветлілася, недаставерную інфармацыю распаўсюджваў сам старшыня Дзяржкамдруку. Бо на наступны дзень, яго падначаленыя абверглі інфармацыю свайго шэфа. Згодна заяве спецыялістаў упраўлення прававога забеспячэння Дзяржкамдруку па стане на 16 гадзінаў 23 жніўня папярэджанне для ПАГОНІ не рыхтавалася, не рыхтуецца і рыхтаваць яго ў гэты дзень ніхто не збіраўся. Атрымліваецца, што спадар Падгайны публічна схлусіў, чым нанёс страту дзелавой рэпутацыі газеты ПАГОНЯ.

Гэтыя факты сведчаць пра тое, што напярэдадні прэзыдэнтскіх выбараў улада не грэбуе ніякімі сродкамі дзеля таго, каб прымусіць замаўчаць апазіцыйных рэжыму журналістаў.

**Мікола Маркевіч**

## «Чтобы помнили...»

**«Адміністрацыя Ленінскага раёна г.Гродна даводзіць да ведама, што выкананне кансалідаванага бюджэту ў бягучым годзе складваецца вельмі напружана».**

З такога нялёгкага прызнання пачынаецца ліст, які рассылаецца ў Ленінскім раёне Гродна па ўсіх прадпрыемствах незалежна ад формы ўласнасці. Далей аўтары лісту наракаюць на тое, што «на выкананне даходнай часткі бюджэту негатыўна ўплывае наяўнасць прадпрыемстваў, якія дапусцілі зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці і рэалізацыі, страты, запазычанасць па выплатах». На гэтым, уласна кажучы, прэамбула заканчваецца і пачынаецца самая істотная частка. Ліст патрабуе ў прадпрыемства (якое, дарэчы, не ўваходзіць у спіс тых, што дапусцілі зніжэнне, страты і запазычанасць) выплаты падатку за другое паўгоддзе 2001 года ў суме... і на гэтым месцы ўказваецца канкрэтная лічба. Цікава, што ў правым верхнім ражку паперы стаіць штамп падатковай інспекцыі. А подпіс знізу - кіраўніка адміністрацыі Ленінскага раёна Барыса Казялкова.

На мінулым тыдні атрымала такі ліст і газета ПАГОНЯ. Нягледзячы на жорсткія эканамічныя ўмовы, падчас якіх прыходзіцца выжываць незалежнаму выданню, падаткі яно выплочвае ў бюджэт у поўным аб'ёме (як, дарэчы, усе іншыя фірмы, што атрымалі падобныя пасланні). Ні ў рэдактара, **ні ў бухгалтара ПАГОНІ няма намераў** адмовіцца ад выплаты падаткаў у далейшым. Бязглуздзіцы казялкоўскага распараджэння не бачаць хіба што самі чыноўнікі. Не разумеючы элементарных эканамічных законаў і не могучы падняць «ляжачыя» прадпрыемствы, яны вырашылі развіць буйную дзейнасць і «строяць» тых, хто яшчэ можа папаўняць бюджэт, як у старыя савецкія часы, даводзячы план па зборы падаткаў. Яны нават не саромеюцца пра гэты заяўляць: «Так, гэта план па зборы падаткаў, даведзены вам на другое паўгоддзе бягучага года», - патлумачылі рэдактару газеты Міколу Маркевічу. На пытанне, ці будуць прыменены санкцыі ў выпадку невыканання гэтага распараджэння, супрацоўнікі падатковай інспекцыі адказалі:

- Ніякіх санкцыяў.

Які ж сэнс у гэтай паперы?

- А каб паклалі яе перад сабой і не забываліся пра абавязацельствы перад бюджэтам, - патлумачылі падаткавікі.

Надараецца, і незалежныя газеты вельмі патрэбныя нашай дзяржаве. Бо хто ж кансалідаваны бюджэт будзе ратаваць, калі ў рэгіёне столькі стратных дзяржаўных прадпрыемстваў?

**Сава Травень**



Рэспубліка Беларусь
Інспекцыя Дзяржаўнага падатковага камітэта па Ленінскаму раёну г.Гродна
04.08.2001 № 5-2/...
На № ___ ад ___

Руководителю Газеты „Пагоня" Маркевичу Н.Н. г.Гродно, ул. ..., 11 230025

Администрация Ленинского района г.Гродно ставит Вас в известность, что исполнение консолидированного бюджета в текущем году складывается крайне напряженно. На выполнение доходной части бюджета негативно сказывается наличие предприятий, допустивших снижение объемов производства и реализации, убытки, задолженность по платежам.

В I полугодии 2001 года по сравнению с соответствующим периодом прошлого года Вашим предприятием недоплачено в бюджет платежей в сумме — млн.руб.

Во II полугодии текущего года Вам необходимо уплатить 0,5 млн.руб.

Примите исчерпывающие меры по уплате указанной суммы.

Глава администрации Б.Н.Козелков

исп.: Усс О.В.
тел.: 41-20-56

## Таможня бярэ дабро

**Гарадзенская абласная пракуратура ўзбудзіла ў дачыненні да супрацоўнікаў кантрольна-ветэрынарнага пункта памежнага пераходу «Брузгі» крымінальную справу па факце хабару. Па справе праходзяць усе дзесяць супрацоўнікаў ветпункта.**

Паводле афіцыйных звестак, на працягу двух гадоў праз пераход «Брузгі» з Польшчы ў Беларусь перавозіліся мясныя прадукты без адпаведных дакументаў. Перавозілася ў асноўным вэнджаніна, якая не мела сертыфіката якасці. Паводле папярэдніх падлікаў, за ўвесь час было перапраўленае некалькі соцень тон мяса, а разавая партыя кантрабанднага мяса важыла тону і больш. Пры гэтым многія перавозчыкі мясных прадуктаў не былі прадпрымальнікамі, што з'яўляецца парушэннем беларускага заканадаўства.

Следствам устаноўлена, што супрацоўнікі кантрольна-ветэрынарнага пункта «Брузгі» за дапамогу ў перавозе праз мяжу кантрабанднага мяса атрымлівалі хабар мяснымі прадуктамі, гарэлкай і валютай. Абласная пракуратура мае намер праз два месяцы перадаць справу аб хабары ў суд.

**Павал Мажэйка**

## Калі Вас, Вашую сям`ю, калегаў, знаёмых ПРЫМУШАЮЦЬ галасаваць ДАТЭРМІНОВА, альбо Вы сталі сведкам гэтага злачынства – тэлефануйце 72-29-96! Журналісты павінны ведаць пра гэта першымі!

# «Беларусь павінна выканаць ролю першакласнага афіцыянта, які абслужыць і Усход, і Захад»

**У панядзелак у рэдакцыі ПАГОНІ адбыўся круглы стол «Моладзь і выбары» кандыдатаў у прэзідэнты і актывістаў 17 уплывовых моладзевых арганізацыяў Гродна. Кандыдатаў - гэта сказана моцна, бо на запрашэнне ПАГОНІ адгукнуўся толькі штаб Сяргея Гайдукевіча ў асобе Аляксандра Рабатая, першага намесніка старшыні ЛДПБ, першага намесніка кіраўніка арганізацыйнага камітэта грамадска-палітычнага блоку «Новая Беларусь-Адзінства», міністра замежных справаў ЛДПБ, ідэолага гэтай жа партыі. І хаця сам Гайдукевіч паставіў на нашым запрашэнні рэзалюцыю «Паедзем!», да Гродна ён не дабраўся - выклікалі, сказаў, у Цэнтрвыбаркам.**

**Літаральна да апошняй хвіліны вяліся нашыя перамовы-змаганні са штабам іншага кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі. Тыдзень мы спрабавалі звязацца з Мікалаем Чаргінцом, кіраўніком штаба. Той, нарэшце, паабяцаў некага даслаць ці, на крайні выпадак, даць даверанную асобу Лукашэнкі з Гродна. Даверанай асобай Лукашэнкі ў Гродне з'яўляецца, акрамя іншых, і старшыня аблвыканкама Уладзімір Саўчанка. Аднак і ён не прыйшоў, каб пазнаёміць моладзь з праграмай свайго кандыдата.**

**Страціў выдатную магчымасць сустрэцца з будучыняй Беларусі і Уладзімір Ганчарык. У штабе Уладзіміра Іванавіча напачатку паабяцалі ўдзел Сямёна Домаша, якога ў дзень круглага стала замянілі на Мечыслава Гіруця, кіраўніка штабу Ганчарыка на Гарадзеншчыне. Аднак, прадстаўнікі моладзевых арганізацыяў не дачакаліся і яго таксама.**

**Такім чынам, круглы стол ПАГОНІ стаў бенефісам Аляксандра Рабатая, які выдатна выкарыстаў дзвюхгадзінны шанец прэзентаваць гарадзенскай моладзі асобу кандыдата ў прэзідэнты Сяргея Гайдукевіча.**




Аляксандр Рабатай, першы намеснік старшыні ЛДПБ, першы намеснік кіраўніка арганізацыйнага камітэта грамадска-палітычнага блоку «Новая Беларусь-Адзінства», міністр замежных справаў ЛДПБ, ідэолаг гэтай жа партыі...

## Моладзевая палітыка

Тры моманты. Неразумна вылучаць асобным радком моладзевую палітыку. Скажыце, калі ў Вас будуць магчымасці прымяніць свае веды, зарабіць добрыя грошы, ці патрэбная Вам нейкае асаблівае ўмяшальніцтва дзяржавы ў Ваш побыт? У Швейцарыі, Аўстрыі, Велікабрытаніі малады чалавек не ведае, хто ў ягонай краіне прэм'ер-міністр. Чаму? А навошта яму ведаць, калі ён мае добрую працу і мае магчымасць зарабіць добрыя грошы. Галоўнае, што ў нас у праграме - гэта забяспечыць моладзь заробкам. Рэальна. Беларусь з улікам свайго патэнцыялу ўжо даўно магла б выйсці на заробак у 600 даляраў, хутчэй за нашых суседзяў. Другое. Моладзь, у выпадку абрання Сяргея Гайдукевіча прэзідэнтам, больш служыць у войску не будзе. Гвалтоўна яна зброю ў мірны час браць не будзе. Прынцыпу камуністычнага ўсеагульнага вайсковага абавязку не будзе. Не тыя часы. Трэцяе. Павінен быць забяспечаны бесперашкодны выезд нашых грамадзянаў за мяжу і перш за ўсё зліквідаваны такі перажытак прыгону, як прапіска. Прапіска стрымлівае ператок працоўнай сілы. Гэтая палітыка здолее падняць дабрабыт моладзі. Наш лозунг: «Чым больш багатых, тым менш будзе бедных».

## Незалежнасць Беларусі

Без каментару. Пачынаючы з 1996 года ЛДПБ сама прыйшла да гэтага: калі мы будзем станавіцца на пазіцыі ілжэпатрыётаў, якія кажуць, што Беларусь і Расея - гэта адзіная дзяржава, мы самі сябе падманем і станем рабамі. Беларусь павінна быць сувярэннай дзяржавай. Беларусь павінна быць той зонай, дзе будуць спалучацца два вектары геапалітыкі - заходні і ўсходні. Беларусь павінна выканаць ролю добрага, першакласнага афіцыянта, які абслужыць і Усход, і Захад. І за гэта атрымае добрую мзду. Беларусь - гэта наш дом, і як жыць у гэтым доме - мы павінны разабрацца.

## Перспектывы беларускай эканомікі

У сённяшнім стане - ніякіх перспектываў. Поўны калапс. Фінансавы крызіс, які створыць крытычную масу для сацыяльнага незадавальнення.

***- Аляксандр Генрыхавіч, Вы разлічваеце на перамогу Сяргея Гайдукевіча на выбарах?***

- Мы, народ наш, ужо не прайгралі. Мы перамаглі. Мы перамаглі і на парламенцкіх выбарах 2000 года, бо гэты парламент не прызнаны ў свеце. Ён нелегітымны. Мы з вамі пераможам і 9-га. Я не бяру канкрэтна Гайдукевіча. Калі пераможа кандыдат ад дэмакратычнай сілы - гэта мы ўсе пераможам. Я не думаю, што ў гэтай залі сядзяць апалагеты гэтага крывавага рэжыму. Мы пераможам 9-га. Яны сябе маглі выбраць ужо ўчора, пазаўчора. Але чамусьці не сталі выбіраць, а пачалі гэтую гульню пад назовам «прэзідэнцкія выбары». Сяргей Гайдукевіч перадаў мне - «Я буду прэзідэнтам гэтай краіны!». І ён будзе, я гэта ведаю.

***- Вы, як міністр замежных справаў ЛДПБ, наведалі шмат арабскіх краінаў. Калі, у выпадку перамогі Гайдукевіча, Вы станеце міністрам замежных справаў Беларусі, мы таксама будзем сябраваць з Іракам? Бо, наколькі вядома, таму, хто патрапіў у Ірак, адмаўляецца ў візе ў ЗША.***

- Вялікі Чэрчыль яшчэ казаў: «У Брытаніі няма сяброў, у Брытаніі ёсць толькі інтарэсы». Мы будзем будаваць замежную палітыку ў першую чаргу зыходзячы з інтарэсаў Беларусі. Гэта камуністы прыдумалі сяброўства. Якое сяброўства можа быць паміж дзяржавамі, калі ў кожнай дзяржаве ёсць свая эканоміка, ёсць свая расстаноўка сілаў, геапалітычнае становішча?! Тое, што гавораць пра сяброўства з расейскім народам - гэта лухта. Гэта адпавядае інтарэсам Беларускай дзяржавы? Я кажу менавіта пра дзяржаўныя інтарэсы. А народы могуць сябраваць. Гэта нармальна. На сённяшні момант мы не можам ігнараваць Расею як эканамічнага партнёра. Што такое краіны Персідскай затокі і Ірак? Гэта 220 мільярдаў даляраў у год. Гэта 3,6 трыльёны даляраў вольных сродкаў, якія могуць быць інвестыцыйным фондам. 84,2 працэнты іракскай нафты ідзе ў ЗША. Ірак - гэта цэнтр сусветных геапалітычных інтарэсаў. Калі б Беларусі ўдалося ўрваць маленечкі кавалачак гэтага пірагу, дык яго хапіла б, каб даваць нам бясплатны заробак.

**<u>Юры Істомін</u>, Беларускае Аб'яднанне Маладых Палітыкаў:**

***- Ці ёсць у планах штаба Сяргея Гайдукевіча варыянт зняцця ягонай кандыдатуры на карысць Уладзіміра Ганчарыка?***

- У чым розніца паміж Лукашэнкам і Ганчарыкам? Я скажу. Проста адзін менш насіў партыйны білет, а другі больш. Вы хочаце зноў камунізм? Я - не. Чаму Гайдукевіч, моцная ва ўсіх планах кандыдатура, харызматычная, павінен саступаць, прабачце, немаведама каму? Чалавеку 62-х гадоў, чалавеку, у штабе якога Лашкевіч, Лявонаў, Казлоўскі. Хто яны такія? Яны альбо служылі Лукашэнку, альбо... Вы самі ведаеце, у якія часы яны служылі. У калгасе будзем жыць. Гайдукевіч сказаў: «Я здымуся толькі ў тым выпадку, калі здымецца Ганчарык».

**<u>Хлопец</u>, не пажадаў прадставіцца:**

***- Вы сказалі, што дасцё моладзі працу. Якім чынам Вы гэта зробіце?***

- Ніхто нідзе ў свеце нічога не дае. Проста ствараюцца ўмовы для таго, каб чалавек мог зарабляць. Аляксандр Лукашэнка ўсіх людзей, якія выйшлі на рынкі, называе «дробным жуллём». І калі ты зарабіў рубель, дык мусіш сённяшняй дзяржаве аддаць два. Будзеш ты багатым ці не? Я думаю, што не. А калі я табе дам магчымасць купіць, прыкладам, гадзіннік і прадаць яго за рубель, а дзяржаве аддаць 0,2 рублі, ты станеш багатым? Я думаю, так. Дзяржава нічога не дае, дзяржава павінна забяпечваць і абараняць нашыя з вамі інтарэсы, ствараць умовы для нармальнага жыцця.

**<u>Аляксандра Буйко</u>, Федэрацыя анархістаў Беларусі:**

***- Як будзе вырашацца праблема адукацыі, аховы здароўя ў той сістэме, якую Вы хочаце пабудаваць?***

- Адукацыя павінна быць дзвюхсістэмнай: прыватная і дзяржаўная. І яны павінны быць пастаўленыя ў роўныя эканамічныя ўмовы, як гэта робіцца ва ўсім свеце. Тады будзе канкурэнцыя. Цяпер у нас няма сістэмы кантролю за адукацыяй, бо адукацыя ідэалагізаваная яшчэ з часоў камунізму. Што тычыцца медыцыны - павінна быць дзяржаўная страхавая медыцына, разам з развіццём прыватнай ініцыятывы.

***- Што Ваш кандыдат зробіць з вялікай арміяй беларускай міліцыі?***

- Рэспрэсіўны апарат, які мае наша краіна, павінен быць не проста скарочаны, а, самае галоўнае, - павінна быць перагледжаная ягоная функцыя. Міліцыя і суд павінны быць зарыентаваныя на абарону правоў канкрэтнага чалавека, грамадзяніна Беларусі. А не займацца палітычным сыскам і пераследам паводле ідэалагічных матываў.

**<u>Ірына Чарняўка</u>, «Беларускі час»:**

***- Якая ў Вас адукацыя?***

- У мяне тры вышэйшыя адукацыі: філосаф, сацыёлаг, псіхолаг. Два ВНУ - з залатым медалём.

**<u>Хлопец</u>, не прадставіўся:**

***- Які ўзровень падаткаабкладання прапануе Ваш кандыдат?***

- Мы лічым, што падаткаабкладанне не павіннае ў сукупнасці дасягаць 44 працэнтаў. Гэта максімум. Нашую партыю наогул называюць партыяй бізнесу.

**<u>Дзмітры Іваноўскі</u>, БНФ «Адраджэньне»:**

***- У якіх палітычных акцыях удзельнічала Вашая партыя, акрамя барацьбы за ўладу?***

- Мы не займаемся лапаннем ката ў чорным мяшку. Мы хочам перамагчы, а не разыграваць карцінкі для заходняй прэсы. Некалькі разоў мы прымалі ўдзел у Чарнобыльскім шляху, выстаўлялі пікеты, прынялі некалькі сур'ёзных заяваў.

**<u>Анжэй Пісальнік</u>, Саюз Палякаў на Беларусі:**

***- Якой бачыць Ваш кандыдат ролю польскай меншасці ў Беларусі?***

- Мы заўсёды выступалі і будзем выступаць за тое, каб культурна-этнічныя стварэнні на тэрыторыі Беларусі мелі роўныя правы для свайго развіцця. Не павінна быць такога: як Аляксандр Лукашэнка аддае перавагу толькі праваслаўнай рэлігіі, абдымаецца з Філарэтам - гэта вельмі небяспечны крок. І мы яго рабіць не будзем. Хочуць палякі мець 20 школаў польскіх, могуць іх «пацягнуць» - калі ласка.

**<u>Зміцер Міхалюк</u>, Малады Фронт:**

***- Ці ёсць у вашай партыі газета?***

- У нас выходзіла тры газеты: «Праўда Гайдукевіча», «Ліберал» і «Ліберальная газата». Дарэчы, Вы ведаеце, што Усебеларускі з'езд фінансавала ЛДПБ, але нам нават слова там не далі. Падыдзіце да Генадзя Бураўкіна і запытайцеся, хто прафінансаваў гэты з'езд? Далей. Вы такія дэмакраты, дык чаму Вы не далі ні капейкі на помнік Генадзю Карпенку?! Помнік яму фактычна пастаўлены на сродкі ЛДПБ.

**<u>Міхал Карневіч</u>, «Біржа інфармацыі»:**

***- Якім Вы бачыце вынік выбараў у працэнтным вымярэнні?***

- Гайдукевіч у адным інтэрв'ю адказаў так: «Лукашэнка 9 верасня выйграе 100 працэнтаў, але выбары для мяне не скончацца. Прэзідэнтам Беларусі буду я». Гэта ягоны адказ.

***- Ці плануе Ваш штаб стварыць нейкую сітуацыю, якая магла б паўплываць на вынік выбараў?***

- Мы рыхтуем сенсацыю. На сённяшні момант ад блоку «Новая Беларусь-Адзінства» ёсць спіс на 3421 чалавека, сябраў участковых выбарчых камісіяў. Мы гэтым займаліся тры гады. Гэты спіс мы пакуль не рассакрэчваем.

**Падрыхтаваў**
**Павал Мажэйка**



На сустрэчу з прэтэндэнтамі на прэзідэнцкае крэсла прыйшлі лідары найбольш уплывовых моладзевых арганізацыяў Гарадзеншчыны, а таксама карэспандэнты васьмі сродкаў масавай інфармацыі. Прэтэндэнты, аднак, не прыехалі...

**Да выбараў Прэзідэнта 9 дзён**

## Лілія Ганчарык абвінавачвае Лукашэнку ў хлусні

**Падчас выступу ў пятніцу ў Бабруйску перад калектывам «Белшына», Аляксандр Лукашэнка сказаў, што пры ўдзеле ягонага галоўнага канкурэнта на выбарах Уладзіміра Ганчарыка была праведзеная «хітрая аперацыя», у выніку якой быў зліквідаваны прафсаюзны «Профбанк», на рахунках якога захоўваліся прафсаюзныя грошы.**

«Аднак з'явіўся «Індустрыяльны банк», уладальніцай 25 працэнтаў акцыяў якога стала жонка Ул.Ганчарыка, сцвярджае А.Лукашэнка», - перадаў прыдворны карэспандэнт.

У інтэрв'ю «Ю.С.Ньюс» Лілія Ганчарык катэгарычна абвергла гэтыя сцвярджэнні і заявіла: «Няма межаў майму абурэнню. Я ўжо стамілася ад гэтай хлусні. Нічога, акрамя акцыяў ПМК-8 горада Чэрвеня, у мяне не было і няма. Ды і ад ПМК мы ніводнага разу дывідэнтаў не атрымлівалі».

**Агенцтва «Ю.С.Ньюс»**

## Ганчарык, дзе твая праграма?

**Учора я завітала на выбарчы ўчастак N71, што ў гарадзенскай школе N19. На стэндзе з інфармацыяй пра выбары большую частку займае праграма Аляксандра Лукашэнкі. Вынікі сямі год прэзідэнцтва, чарговыя абяцанні («250 даляраў заробку ў наступнай пяцігодцы»), здымкі мілых дзетак за школьнымі партамі...**

Побач - зроблены на ксераксе аркуш з перадвыбарчай праграмай Сяргея Гайдукевіча.

- А дзе трэці кандыдат? - пытаюся я ў супрацоўніка выбарчай камісіі, маючы на ўвазе Уладзіміра Ганчарыка, адзінага кандыдата ад шырокай дэмакратычнай кааліцыі.

- У нас няма ягонай праграмы, - чую ў адказ. - Яе да нас ніхто не прыносіў.

У пошуках праграмы Уладзіміра Ганчарыка звяртаюся да Анатоля Хацько, кіраўніка перадвыбарчага штаба Уладзіміра Ганчарыка ў Гродне:

- Спадар Хацько, чаму на выбарчым участку N71 няма перадвыбарчай прарамы Уладзіміра Ганчарыка?

- Таму, што ў Гродне яе яшчэ няма.

- Чаму?

- Вы ў мяне пытаецеся? Ёсць цэнтральны штаб у Менску, туды і званіце...

Як бачым, за тыдзень да выбараў сляды праграмы згубіліся дзесьці ў сталіцы. Тое, што яе не шукаюць супрацоўнікі выбарчай камісіі, натуральна. Здзіўляе тое, што пра распаўсюд перадвыбарчай праграмы Уладзіміра Ганчарыка абсалютна не клапоцяцца людзі з ягонай каманды...

**Юлія Дарашкевіч**

# Кандыдат ёсць. Засталося за яго прагаласаваць

**Мечыслаў Гіруць - асоба вядомая ў беларускай палітычнай раскладцы. Знаны аграрны спецыяліст, ён у свой час працаваў намеснікам старшыні Гарадзенскага аблвыканкама, узначальваў камітэт па сельскай гаспадарцы і харчаванню. Выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Цяпер Мечыслаў Іванавіч з'яўляецца даверанай асобай адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзіміра Ганчарыка.**

- Усяго нас, давераных асобаў, 30 чалавек. На Гарадзеншчыне акрамя мяне - гэта палітык Сямён Домаш і прадпрымальнік Мікалай Салянік. Што да Беларусі наогул, дык інтарэсы Уладзіміра Ганчарыка прадстаўляюць Міхаіл Чыгір, Павал Казлоўскі, Сяргей Калякін, Міхаіл Марыніч, актрыса Зінаіда Бандарэнка, Васіль Лявонаў, Анатоль Лябедзька, рэжысёр Юры Хашчавацкі, Анатоль Лашкевіч, паэт Генадзь Бураўкін, Юры Хадыка, юрыст Міхаіл Пастухоў ды іншыя. Гэта вядомыя ў грамадстве асобы, да думкі якіх прыслухоўваюцца людзі.

***- Наколькі моцная надзея, што грамадзяне аддадуць перавагу спадару Ганчарыку ў спрэчцы з Лукашэнкам?***

- Калі выбары пройдуць без фальсіфікацый з боку прапрэзідэнцкіх выбарчых камісіяў, дык перамога будзе за намі. Супрацьленне, трэба сказаць, адчуваем вельмі магутнае. Няма доступу ў дзяржаўныя СМІ, акрамя дазволеных законам выступленняў кандыдата ў прэзідэнты па тэлебачанні і радыё, публікацыі выбарчай праграмы. Зараз чыняцца ўсялякія перашкоды ў арганізацыі сустрэчаў Уладзіміра Ганчарыка з грамадскасцю. То залу выдзяляюць на 200 чалавек, а збіраецца больш за тысячу, то забараняюць выступаць вядомаму спеваку Яраславу Еўдакімаву, які суправаджае нашага кандыдата ў прэзідэнты. Маўляў, няма ліцэнзіі на правядзенне канцэртаў. У той жа час у першыя дні верасня рыхтуецца прыезд з Расеі, у тым ліку і на Гарадзеншчыну, Надзеі Бабкінай. Яе запрасілі дзяржаўныя кіруючыя органы для падтрымкі Лукашэнкі.

***-Уладзімір Ганчарык не мае на Гарадзеншчыне ні родных, ні блізкіх. Ініцыятыўных групаў па зборы подпісаў у падтрымку вылучэння яго кандыдатам у прэзідэнты было ўсяго некалькі. Відавочна, што ў такім разе разлічваць на высокі вынік падчас галасавання не трэба...***

- Гэта як сказаць. На Гарадзеншчыне падтрымка адчувальная. Па-другое, паводле дамоўленасці, цяпер у агульны выбарчы штаб увайшлі моцныя структуры Сямёна Домаша. Гэтыя людзі паказалі сваё ўмельства працаваць. Хаця, на жаль, засталося вельмі мала часу для «раскруткі» Уладзіміра Ганчарыка. Але зробім усё, што па сілах.

Што да сувязяў з Гарадзеншчынай, дык Уладзімір Іванавіч бываў тут дзесяткі разоў як кіраўнік Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай. Часцяком наведвае працоўныя калектывы вобласці. Тут у яго шмат паплечнікаў.

***- Біяграфія Уладзіміра Іванавіча надрукаваная. Але на паперы не адлюструеш характар асобы, імкненні і думкі чалавека. Вы даўно знаёмыя са спадаром Ганчарыкам?***

- З 1985 года. Нашыя шляхі даволі часта перасякаліся па працы. Затым быў перыяд сумеснай дзейнасці ў Вярхоўным Савеце. Там я спазнаў Уладзіміра Іванавіча як адукаванага чалавека з высокім інтэлектуальным патэнцыялам. Ён працалюбівы, хутка ўнікае ў сутнасць справы, кантактны, камунікабельны, дзелавіты.

Гэта ягоныя знешнія якасці. А вось пра ягоныя іншыя здольнасці вядома далёка не ўсім. Напрыклад, ён любіць вырошчваць садавіну. Мяне мала чым можна здзівіць у гэтай справе. Але калі пабачыў паўкілаграмовыя грушы, вырашчаныя рукамі Уладзіміра Іванавіча, зразумеў, што гэта прафесіянал высокага палёту. Якое трэба мець цярпенне, дасканалыя веды, жаданне атрымаць задуманы вынік! Хіба палітыку такія якасці не падмога?

***- Інфармацыя для тых, хто хоча даведацца больш пра Уладзіміра Ганчарыка, жадае папрысутнічаць на сустрэчах з кандыдатам у прэзідэнты: ён прыязджае на Гарадзеншчыну...***

- Графік вельмі напружаны. 30, 31 жніўня і 1-га верасня Уладзімір Іванавіч плануе пабыць у Бярозаўцы, Лідзе, Гродне, Красным Сяле, Ваўкавыску, Слоніме, Смаргоні. Больш дакладную інфармацыю аб часе і месцы сустрэчаў можна атрымаць у раённых штабах кандыдата ў прэзідэнты.

**Гутарыў Антон Лабовіч**




# Усё залежыць ад сумлення

**У рэдакцыю патэлефанавала гарадзенка Аксана Т. з вельмі актуальным перад выбарамі пытаннем. Размова ішла пра наступнае:**

*- Я жыву па месцы прапіскі мужа: на вуліцы Рэпіна. Сама я прапісаная ў іншым месцы. Учора да нас зайшлі з участковай выбарчай камісіі і сказалі, што правяраюць спісы грамадзянаў, якія маюць права голасу. Калі высветлілася, што я жыву тут, а прапісаная ў іншым месцы, правяраючая запэўніла мяне, што я магу галасаваць на двух выбарчых участках - ці па месцы жыхарства, ці па месцы прапіскі. Я так і не зразумела: я буду ўнесеная ў выбарчыя спісы два разы? Такім чынам кожны можа запісацца на выбары колькі заўгодна разоў.*

Пытанне тыповае і вельмі распаўсюджанае, асабліва калі ўлічыць той факт, што ў Гродне нямала народу жывуць не там, дзе прапісаныя. Напрыклад, толькі сярод маіх знаёмых - гэта добрая палова.За тлумачэннямі мы звярнуліся ў Ленінскую раённую выбарчую камісію. Вось што напісанае ў Выбарчым кодэксе. Згодна з артыкулам 20, « у спіс грамадзянаў, ...якія маюць права голасу, уключаюцца грамадзяне, часова ці пастаянна пражываючыя на момант складання спісу на тэрыторыі дадзенага ўчастку для галасавання.... Грамадзянін можа быць уключаны ў спіс толькі на адным участку для галасавання».

Такім чынам, паводле закона грамадзянін мае права выбраць адзін участак для галасавання: альбо па месцы прапіскі, альбо па месцы жыхарства. Аднак хто адказвае за дакладнасць спісаў і за тое, каб адно прозвішча было запісанае толькі ў адзін спіс - у Ленінскім выбарчым участку патлумачыць не змаглі. На сённяшні дзень гэта клопат саміх выбаршчыкаў, калі толькі іх цікавіць законнасць выбараў.

## Лукашэнка зноў паабяцаў павялічыць стыпендыі...

**16-га жніўня падчас сустрэчы з працоўнымі Гарадзенскага вытворчага прадпрыемства «Хімвалакно» А.Лукашэнка пры сведках заявіў аб значным павелічэнні стыпендыяў студэнтам з 1-га верасня. Сёння ўжо 29 жніўня, аднак ні ў бухгалтэрыі Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, ні ў Гарадзенскім дзяржаўным медычным універсітэце, ні ў Аграрным універсітэце гэтага пацвердзіць не здолелі. Але ж і не абверглі.**

**Бухгалтары ўсіх гарадзенскіх ВНУ запэўнілі карэспандэнта ПАГОНІ, што за два дні яны здолеюць зрабіць пераразлік стыпендыяў у выпадку, калі загад аб павелічэнні прыйдзе пасля першага чысла, што здараецца вельмі часта.**

**Захар Штрэна**

## Пажаданні Лукашэнку ад гарадзенцаў у дзень яго нараджэння

**30 жніўня першы прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка святкуе свой 47 дзень нараджэння. Напярэдадні гэтай даты мы звярнуліся да гарадзенцаў з пытаннем: «Што Вы жадаеце Аляксандру Лукашэнку ў дзень яго нараджэння?»**



**Лена, студэнтка ГрДзУ:**
- Нічога Вам не жадаю, Аляксандр Рыгоравіч, бо нешта зычаць толькі тым людзям, якіх паважаюць.



**Сямён Восіпавіч Сурмач, механізатар:**
- Аляксандр Рыгоравіч, жадаю Вам здароўя, шчасця ў пабыце і сям'і і перамогі на выбарах.



**Марыя, бухгалтарка:**
- Каб ён здох!



**Сяргей, таваразнаўца:**
- Поспехаў Вам, і каб былі прыстойным чалавекам, бо пакуль у Вас з гэтым праблемы.



**Сяргей:**
- Як чалавеку зычу Вам, Аляксандр Рыгоравіч, здароўя, а як кіраўніку краіны - нічога. Я не прымаю Вашай палітыкі.



**Станіслава Аляксандраўна, пенсіянерка:**
- Каб Вы выйгралі і былі прэзідэнтам яшчэ раз, здароўя, шчасця і добрага настрою.



**Аляксандр, музыка:**
- Адпачніце трохі, спадар Лукашэнка, ад сваёй прэзідэнцкай пасады.



**Марына, кантралёр:**
- Гуманнасці Вам паболей!



**Максім, студэнт:**
- Жадаю, каб Вы, Аляксандр Лукашэнка, прайгралі на выбарах і адказалі за ўсё кепскае, што зрабілі нашаму народу.

**Пажаданні збірала Алеся Сідлярэвіч**

# Зноў пра эскадроны смерці

**Выкраданне Ганчара і Красоўскага здзейснілі пяцёра вайскоўцаў брыгады ўнутраных войскаў, якія захапілі і завезлі зніклых пад Бягомль, што ў Віцебскай вобласці, застрэлілі і закапалі целы непадалёк ад паласы перашкодаў, якая належыць вайсковай частцы. Гэтая інфармацыя вынікае з заявы двух чалавек, якія займаліся самастойным расследаваннем справы зніклых у 1999 годзе палітыка Віктара Ганчара і бізнесоўца Анатоля Красоўскага. Відэакасеты з запісам гэтай заявы былі разасланыя ў некаторыя сродкі масавай інфармацыі ў панядзелак, 27 жніўня.**

Асобы заяўнікоў на дадзены момант высветленыя дакладна - іх прызналі сваякі і калегі. Гэта Генадзь Угляніца, супрацоўнік аддзелу па абароне канстытуцыйнага ладу і барацьбы з тэрарызмам Менскага ўпраўлення КГБ, і Андрэй Жарнасек, сябра незарэгістраванай арганізацыі «Край». Гэтыя людзі, паводле іхніх словаў, пасля знікнення Ганчара і Красоўскага распачалі паралельнае расследаванне і ўрэшце рэшт выйшлі на непасрэднага сведку злачынства Віталя Мяцельскага.

- Я асабіста ўдзельнічаў у апытанні сведкі па справе. Мы з ім размаўлялі не раз, але толькі недзе з трэцяй-чацвёртай размовы ён даў нам поўныя сведчанні, якія тычыліся ўсіх абставінаў гэтай справы, - гаворыць Генадзь Угляніца. - Жыве ён у Барысаве. Ён - былы кіроўца, служыў у часты N 32/14, у верасні праходзіў службу ў СОБРы, у Паўлічэнкі. Некалькі разоў вазіў яго на машыне асабіста. Цяпер прайшло ўжо, відаць, паўтары тыдні, як сведка схаваўся.

Акрамя Мяцельскага, у заяве фігуруюць прозвішчы іншых удзельнікаў злачынства, вайскоўцаў унутраных войскаў - Уладзіміра Наватарскага, кіраўніка групы захопу, Аляксандра Мекіянца, Юрыя Гуцько, лейтэнанта Кукліна і прапаршчыка Мурашкі. Пакуль афіцыйныя крыніцы не пацвердзілі дачыненне гэтых людзей да справы Красоўскага-Ганчара, але і не абверглі.

- Нам стала вядома, што ў 1999 годзе ў верасні група выехала на дзвюх машынах з часткі вечарам, - распавядае Андрэй Жарнасек. - Захапілі ў Менску двух людзей, пасадзілі за руль Мекіянца, закінулі людзей у гэтыя машыны і паехалі на базу ў Бягомлі. Каля гадзіны ўночы яны прыехалі на гэтую базу. Не даязджаючы да базы, звярнулі направа, на прасёлкавую дарогу, застрэлілі Ганчара і Красоўскага. Пасля гэтага, машыну «Джып» схавалі ў лесе, затым вярнуліся ў частку... На наступны дзень салдатаў роты адправілі капаць яму на паласу перашкодаў. Вось тут касэта са стужкай паласы перашкодаў, і гэтая яма тут фігуруе. Яны выкапалі яму, скінулі туды машыну, паводле папярэдняй інфармацыі, там жа знаходзяцца трупы: ці пад машынай, ці ў самой машыне. Раздавілі БТРам, засыпалі зямлёй, адносна замаскіравалі месца...

Паводле словаў Жарнасека, падчас свайго расследавання яны выкарыстоўвалі металашукальнік, якім даследавалі ўсю паласу. І толькі ў яме памерам 3,3 - 3,4 метра на 1,6 - 1,8 метра, якую можна лёгка заўважыць па абарваным краі, адбілася магнітная анамалія на жалеза.

- Пасля гэтага там правялі два шурфы, раскопы - ў выніку мы на глыбіні каля 2 метраў натрапілі на метал. Больш там ніхто капаць не стаў, бо частка гэтая была побач (знаходзіцца літаральна ў 200 метрах ад гэтай паласы).

Уночы 28 жніўня, адразу пасля з'яўлення відэакасеты з заявай, міністр унутраных справаў Беларусі Уладзімір Навумаў разам з сапёрамі і супрацоўнікамі МУС наведаў і абследаваў мяркуемае месца пахавання Ганчара і Красоўскага. Па вяртанні ў сталіцу Навумаў паспяшаўся абвесціць, што «пры даглядзе месца здарэння трупы не знойдзеныя», і што касета - чарговая правакацыя. Аднак ягоныя словы выклікаюць недавер. Па-першае, Навумаў - асоба зацікаўленая і, магчыма, замешаная ў злачынстве. Па-другое, журналістам падчас даследавання ямы не далі магчымасць азнаёміцца з тэхнічнымі дадзенымі абсталявання, якім праводзіўся пошук метала ў зямлі. Акрамя таго, для экспертызы не былі ўзятыя пробы глебы з месца магчымага пахавання целаў.

- Што яшчэ мог сказаць Навумаў, чалавек, які сам удзельнічаў у забойстве гэтых людзей? - так пракаментаваў ПАГОНІ заяву міністра ўнутраных справаў прадстаўнік незарэгістраванай арганізацыі «Край», з якім удалося звязацца нашаму карэспандэнту. Гэты чалавек, імя якога мы не называем паводле вядомых прычынаў, паведаміў нам таксама, што Генадзь Угляніца і Андрэй Жарнасек, дзеля забеспячэння іхняй бяспекі, знаходзяцца зараз па-за межамі Беларусі.

Хутка заяўнікі збіраюцца абнародаваць запісы размоваў са сведкам, у якіх адлюстраваныя ўсе абставіны здарэння, што адбыліся ў верасні 1999 года пад Бягомлем.

Мы затэлефанавалі жонцы зніклага Анатоля Красоўскага Ірыне, каб даведацца пра яе меркаванне наконт з'яўлення новай інфармацыі адносна яе мужа.

- Мне цяжка сказаць, наколькі праўдзівы змест гэтай відэакасеты. Аднак там названыя канкрэтныя прозвішчы людзей, якія рэальна існуюць. Што можа быць прасцей - дапытаць іх? - гаворыць Ірына Красоўская. - Але, як мы бачым, афіцыйнае следства нават не спрабуе рабіць адпаведныя захады. Я лічу, што улады хаваюць тое, што адбылося на самой справе. Я простая жанчына, звычайная, і я не ведаю, да каго мне звярнуцца па дапамогу, каб правесці незалежнае расследванне.

**Юлія Дарашкевіч**

# Толькі б паспець да выбараў

**Красавіцкі ўсплёск колькасці здзелак, што заключаюцца з нерухомай маёмасцю, у Гродне дакаціўся ажно да сярэдзіны жніўня. І калі вясной гэтага года рыэлтарскае ажыўленне было выклікане эканамічнымі прычынамі, то сёння адной з асноўных прычынаў з'яўляюцца прэзідэнцкія выбары, гэта значыць, прычына палітычная.**

Усіх хвалюе нейкая нявызначанасць Беларусі пасля 9 верасня - пасля прэзідэнцкіх выбараў. Пакупнікі нерухомасці імкнуцца набыць яе да вышэйзгаданай даты з-за магчымага ўвядзення дэкларыраваных грашовых сродкаў на набыццё нерухомасці і з-за зменаў тэмпаў жыллёвага будаўніцтва ў сувязі з магчымымі зменамі ў палітычным кіраўніцтве. Гандляры нерухомасцю жадаюць хутчэй рэалізаваць свой тавар з-за магчымага падзення коштаў пасля прэзідэнцкіх выбараў па прычыне рэзкага пагаршэння жыццёвага ўзроўню грамадзянаў Беларусі.

Паводле інфармацыі аналітычнага цэнтру «Рыначная эканоміка», кошты на кватэры другаснага рынку жылля ў Гродне да пачатку ліпеня бягучага года дасягнулі максімальных пазіцыяў за апошнія два гады, аднак апошнія тры тыдні (канец ліпеня - пачатак жніўня) паказалі тэндэнцыю зніжэння коштаў на тры-чатыры працэнты.

Кошт кватэры залежыць ад колькасці пакояў, формы ўласнасці, месцазнаходжання кватэры, паверху, тыпу дома, планіроўкі, году пабудовы дома, неабходнасці ці «наяўнасці» рамонту ды шмат якіх іншых фактараў. На 11 жніўня 2001 года сярэдні кошт прыватызаванай кватэры ў Гродне новай (чэшскай) планіроўкі не на першым і не на апошнім паверсе наступны»:

- аднапакаёвая кватэра - 7100 даляраў ЗША; - дзвюхпакаёвая кватэра - 9700 даляраў ЗША; - трохпакаёвая кватэра - 12700 даляраў ЗША; - чатырохпакаёвая кватэра - 14300 даляраў ЗША.

Кошт кватэры на першым ці на апошнім паверхах на 10-15 працэнтаў ніжэйшы, на другім, трэцім і чацвёртым паверхах на чатыры-пяць працэнтаў вышэйшы за названыя.

Вялікая розніца ў коштах на кватэры другаснага рынку жылля назіраецца ў залежнасці ад раёнаў гораду. Найбольшая колькасць прапановаў (гл.табліцу) - па вул. Ліможа, пр-це Кляцкова, вул. Кабяка, вул. Пестрака, вул. Дзяржынскага. У гэтых раёнах і кошты крыху ніжэйшыя за сярэднія.

Цяпер найбольшую колькасць прапановаў складаюць: дзвюхпакаёвыя і трохпакаёвыя кватэры хрушчоўскай і брэжнеўскай планіровак, чатырохпакаёвыя кватэры новай планіроўкі, а таксама неліквіднае жыллё - на першым і апошнім паверхах.

Апошнім часам з'явілася тэндэнцыя вызначэння гандлярамі кватэраў завышаных коштаў: за дзвюхпакаёвыя - амаль 11 тысяч даляраў ЗША, а за трохпакаёвыя 14, а то і 15 тысяч даляраў ЗША. Аднак трэба адзначыць, што па такіх коштах кватэры не прадаюцца. Выключэнне складаюць кватэры ў цэнтры гораду і з еўрарамонтам.

Таксама не трэба забывацца, што вялікую «канкурэнцыю» коштам на кватэры другаснага рынку жылля робяць кошты новых кватэраў.

Адкрытае акцыянернае таварыства «Гроднажылбуд» па-ранейшаму прапануе дзвюхпакаёвыя кватэры коштам каля 9300 даляраў ЗША, трохпакаёвыя - коштам 12600 даляраў ЗША і чатырохпакаёвыя - коштам каля 14900 даляраў ЗША. Такім чынам, будучыя ваганні коштаў на рынку другаснага жылля ўсё-ткі абмежаваныя ў Гродне коштамі новых кватэраў.

Паводле прагнозаў аналітычнага цэнтру «Рыначная эканоміка», кошты на кватэры другаснага рынку жылля ў Гродне пасля прэзідэнцкіх выбараў пачнуць зніжацца, паколькі рэальнага паляпшэння эканамічнай сітуацыі, узроўню жыцця ў Рэспубліцы Беларусь няма. Напрыканцы бягучага году кошты на кватэры новай планіроўкі прагназуюцца наступныя:

- аднапакаёвыя кватэры - 6900 даляраў ЗША; - дзвюхпакаёвыя кватэры - 9400 даляраў ЗША; - трохпакаёвыя - 12500 даляраў ЗША; - чатырохпакаёвыя - 13800 даляраў ЗША.

Але самі разумееце: прагнозы - справа нядобрая... Асабліва - у непрадказальнай Беларусі.

Прачытаўшы наступны нумар ПАГОНІ, вы даведаецеся пра сітуацыю на рынку жылля ў цэлым па Рэспубліцы Беларусь.

**Сяргей Міронаў**

| Месца знаходжання | Планіроўка | Колькасць пакояў | Тып дому | Паверх | Кошт |
|---|---|---|---|---|---|
| Вул. Урублеўскага | хрушч. | 1 | панэл. | 2 | 6200 |
| Вул. Пестрака | чэшская | 1 | панэл. | 1 | 6900 |
| Вул. Ліможа | новая | 1 | цагл. | 4 | 7000 |
| Пр-т Кляцкова | новая | 1 | панэл. | 4 | 7000 |
| Вул. Суворава | хрушч. | 1 | панэл. | 2 | 6200 |
| Вул. Пралетарская | брэжн. | 1 | панэл. | 2 | 6400 |
| Вул. Міра | хрушч. | 1 | панэл. | 1 | 6000 |
| Вул. Шчорса | новая | 1 | панэл. | 4 | 7400 |
| Вул. В.Соламавай | хрушч. | 2 | панэл. | 5(апошн.) | 7800 |
| Пр-т Я.Купалы | чэшская | 2 | панэл. | 2 | 10000 |
| Вул. Кабяка | новая | 2 | панэл. | 8 | 9600 |
| Вул. Мендзялеева | новая | 2 | цагл. | 3 | 10000 |
| Вул. Дзяржынскага | чэшская | 2 | панэл. | 4 | 9900 |
| М-н Фолюш | новая | 2 | панэл. | 5 | 9500 |
| Вул. Дамброўскага | хрушч. | 2 | панэл. | 2 | 8000 |
| Вул. Кляновая | новая | 2 | цагл. | 10(апошні) | 9200 |
| Вул. Пестрака | чэшская | 2 | панэл. | 4 | 10300 |
| Пр-т Касманаўтаў | сталінская | 2 | цагл. | 3(апошн.) | 8500 |
| Вул. Шчорса | новая | 2 | панэл. | 6 | 9900 |
| Вул. Ліможа | новая | 3 | цагл. | 4 | 12500 |
| Вул. Кабяка | новая | 3 | панэл. | 6 | 12300 |
| Вул. Дзяржынскага | чэшская | 3 | панэл. | 7 | 12800 |
| Вул. Пушкіна | хрушч. | 3 | панэл. | 3 | 9200 |
| Пр-т Кляцкова | новая | 3 | панэл. | 12(апошн.) | 12000 |
| Вул. Горкага | новая | 3 | цагл. | 7 | 13900 |
| Вул. Таўлая | новая | 3 | панэл. | 6 | 12800 |
| Вул. Шчорса | новая | 3 | панэл. | 1 | 11500 |
| М-н Фолюш | чэшская | 3 | панэл. | 2 | 13000 |
| Вул. Міра | хрушч. | 3 | панэл. | 4 | 9000 |
| Вул. Курчатава | новая | 3 | панэл. | 2 | 13300 |
| БЛК | новая | 3 | цагл. | 8 | 13500 |
| Вул. Кабяка | новая | 4 | панэл. | 2 | 14000 |
| Вул. Ліможа | новая | 4 | цагл. | 3 | 14300 |
| Вул. Горкага | новая | 4 | цагл. | 8 | 14500 |
| Вул. Пралетарская | брэжн. | 4 | панэл. | 4 | 9500 |
| Вул. Сацыялістычная | сталінская | 4 | цагл. | 2 | 25000 |
| Пр-т Я.Купалы | чэшская | 4 | панэл. | 1 | 13800 |
| Вул. Суворава | хрушч. | 4 | панэл. | 4 | 9900 |
| Пр-т Кляцкова | новая | 4 | панэл. | 4 | 14000 |
| Вул. Фамічова | чэшская | 4 | панэл. | 1 | 13800 |
| Індурская шаша | новая | 4 | панэл. | 8(апошн.) | 13500 |
| Вул. Болдзіна | новая | 4 | панэл. | 2 | 15000 |

Заўвагі: 1) прапановы выбраныя паводле рыэлтарскіх дадзеных на 11 жніўня 2001 года.
2) кошт пададзены ва ўмоўных адзінках.
3) кошт неканчатковы, устаноўлены гандлярамі.

# Грамадзянін ЗША Роберт Філдынг быў прымусова высланы з Беларусі 25 жніўня гарадзенскім КГБ

**У суботу каля дзесяці гадзінаў раніцы ў Гродне быў затрыманы амерыканец Роберт Філдынг. Першапачатковай падставай затрымання стала парушэнне пашпартна-візавага рэжыму. Увечары таго ж дня яго дэпартавалі з краіны, пасадзіўшы на польскі цягнік. Пазней улады абвінавацілі яго ва ўмяшальніцтве ва ўнутраныя справы краіны і адкрытай агітацыі за Уладзіміра Ганчарыка. На пяць гадоў Філдынгу забаронена прыязджаць у Беларусь.**

Роберт Філдынг, супрацоўнік Амерыканскай федэрацыі працы - Канфедэрацыі прамысловых прафсаюзаў, прыехаў у нашую краіну па запрашэнні Свабоднага прафсаюза Беларускага з мэтай «кансультацыйнай дапамогі». 22 жніўня ён прыбыў у Гродна, дзе на наступны дзень меў дзве сустрэчы з сябрамі мясцовых прафсаюзаў.

Раніцай 25 жніўня ў прыватны гатэль «Маналіт», дзе Роберт Філдынг спыніўся, завіталі супрацоўнікі міліцыі і пашпартна-візавай службы. Пасля праверкі дакумантаў яны даставілі амерыканца ў абласны аддзел візаў і рэгістрацыі. Праз тры гадзіны яго перавялі ў будынак упраўлення КГБ і дазволілі патэлефанаваць супрацоўнікам амерыканскай амбасады. Апошнія неадкладна выклікалі адвакатку Ірыну Паляшчук, паслугамі якой Філдынг так і не змог скарыстацца. На вачах журналістаў Ірына Мікалаеўна безвынікова стукалася ў зачыненыя дзверы пашпартна-візавай службы, затым у дзверы камітэта дзяржбяспекі. Дзяжурны КГБ паведаміў ёй, што ніякага амерыканскага грамадзяніна яны не затрымлівалі...

- Я так і не змагла прыступіць да выканання сваёй працы, - адзначыла нам Ірына Паляшчук.

Між тым, Роберта Філдынга пакармілі абедам, а каля шасці вечара на машыне завезлі ў гатэль па рэчы. Затым амерыканцу набылі квіток да Варшавы, у 19.35 пасадзілі на цягнік Гродна-Кузьніца і выслалі з краіны.

Паводле паведамлення Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў (ЦІГС) КГБ Беларусі, «Філдынг прыбыў у нашую краіну ў якасці каардынатара для падрыхтоўкі мабілізацыйнай гатоўнасці апазіцыйных сілаў да неканстытуцыйнага адхілення ад улады дзеючага прэзыдэнта». У ЦІГС КГБ адзначылі таксама, што Філдынг, выступаючы перад сябрамі гарадзенскага Свабоднага прафсаюза, заклікаў падтрымаць на выбарах адзінага кандыдата ад дэмакратычных сілаў Уладзіміра Ганчарыка.

- Ніякай агітацыі за Ганчарыка не было, - запэўніў нас Сяргей Антусевіч, старшыня першаснай арганізацыі Беларускага незалежнага прафсаюза на ВА «Азот». - Роберт Філдынг кансультаваў сябраў прафсаюза адносна выбарчага права.

Тым не менш, у пашпарце амерыканца паставілі штамп, які забараняе ўезд у Беларусь на наступныя пяць гадоў. На момант выхаду ПАГОНІ ў друк, амерыканская амбасада рыхтавала заяву адносна дэпартацыі грамадзяніна ЗША з Беларусі.

**Алеся Тарашкевіч**

## «Нёман» пачынае з «Берасцем»

**1-га верасня хакеісты гарадзенскага «Нёмана» на сваёй пляцоўцы сустрэчай з «Берасцем» распачнуць чарговы чэмпіянат Беларусі (пачатак гульні ў 18.30 гадзінаў).**

Апошнюю рэпетыцыю перад стартам нацыянальнага першынства правялі нашыя хакеісты. У аўторак гарадзенцы перамаглі «Керамін-Менск» - 5:3 (галы ў «Нёмана» закідвалі Сцефановіч, Чух, Пстыга, Смірноў, Кадыраў).

На мінулым тыдні ў групавым турніры спыніліся гарадзенцы ў VIII Кубку «Крыніцы» (раней называўся «Кубак Беларусі»). Шасціразовы ўладальнік гэтага трафею, «Нёман» пачаў турнір з упэўненых перамогаў над моладзевай зборнай Беларусі - 5:0 і «Берасцем» - 9:5. У вырашальнай апошняй групавой гульні «нёманцы» «злілі» гульню «Гомелю» - 4:3 і ў фінале з непрыстойным лікам перамаглі віцебскі «Хімвалакно» - 20:1.

Як адзначыў ПАГОНІ галоўны трэнер «Нёмана» Анатоль Варывончык, дрэнна на турніры выглядалі гарадзенскія брамнікі Казачкін і Мельнікаў. Таму сёння-заўтра ў Гродна павінен прыехаць брамнік электранайскай «Энергіі» Арунас Алейнікавас. Падпісаў кантракт з «Нёманам» нападнік Максім Сапівуз, а Анатолю Куставу і Андрэю Станаву далі вольную.

Трэба адзначыць, што заявачная кампанія скончыцца толькі першага студзеня.

## Круцілі педалі

**У нядзелю, 26 жніўня, у Гродне скончыўся сёмы тур першынства Беларусі па веласпорце.**

Былі праведзены чатыры гонкі. У групавой гонцы на 100 кіламетраў сярод мужчынаў першынстваваў віцебец Дзмітрый Аўласенка, другое месца заняў гарадзенец Іван Найдзёнаў. У жанчынаў на дыстанцыі ўдвая меншай гарадзенка Ірына Шынкевіч была трэцяй. А ў індывідуальнай гонцы на 15 кіламетраў Ірына фінішавала першай, другое месца заняла яшчэ адна наша зямлячка Марына Душкова. У мужчынаў на гэтай дыстанцыі гарадзенцы не адзначыліся.

Паралельна з першынством Беларусі праходзіла першынство Гарадзенскай вобласці сярод юнакоў.

Групавую гонку на 50 кіламетраў выйграў Юрый Язэпчык, другім фінішаваў Андрэй Логвінаў, трэцім - Аляксандр Кісялёў. Больш паспяхова для Аляксандра склалася індывідуальная гонка на 15 кіламетраў, дзе ён перасек фінальную стужку першым, а Андрэй Логвінаў адзначыўся зноў другім месцам. Трэцяе месца дасталося Васілю Варжыну.

Першага і другога верасня ў Гродне пройдзе Кубак Беларусі.

## Гарадзенская ўлада не заўважае цяжкасцяў «Алімпіі»

**Поўная непрагляднасць - так можна ахарактарызаваць стан гарадзенскай жаночай баскетбольнай каманды «Алімпія» напярэдадні VIII чэмпіяната Балтыйскай Лігі, які стартуе 28 верасня. Каманда фактычна яшчэ не пачынала падрыхтоўку да адказных гульняў. У панядзелак баскетбалісткі разам з галоўным трэнерам Аляксандрам Шымкавяком за свае асабістыя грошы закончылі фарбаваць падлогу ў залі вучылішча алімпійскага рэзерву, дзе «Алімпія» трэніруецца.**

Нягледзячы на гэта, нашыя баскетбалісткі (студэнткі вучылішча алімпійскага рэзерву і адзіная дасведчаная баскетбалістка Вольга Курсевіч) ужо пачалі займацца агульнафізічнай падрыхтоўкай. Святланы Гапонавай і Кацярыны Шупляцовай, лідарак «Алімпіі», на працягу многіх сезонаў у Гродне на сённяшні дзень няма. Іх далейшы выступ за «Алімпію» наогул стаіць пад пытаннем, як і выступ адной з лепшых нападніцаў нашай краіны гарадзенкі Таццяны Траско, якая ўжо выйшла з дэкрэтнага адпачынку.

Прычына бедства гарадзенак - банальная для беларускага спорту: клуб не разлічыўся з дзяўчатамі яшчэ за другую палову мінулага сезону. Паводле інфармацыі ПАГОНІ, пазычанасць, нават па беларускіх мерках, вельмі вялікая.

Спартыўнае жыццё баскетбалістак нядоўгае, таму яны і шукаюць лепшыя ўмовы існавання. Ужо сёння маюць прапанову аб працаўладкаванні ў камандзе віцэ-чэмпіёнак Харватыі перспектыўныя гарадзенкі Надзея Дрозд і Вольга Цярэнцьева. Калі дзяўчаты прымуць прапанову, іхні гадавы заробак у Харватыі складзе 15 тысяч нямецкіх марак замест 50 тысяч нашых беларускіх рублёў, якія яны маюць у «Алімпіі» штомесяц.

Хто замяніць гэтых баскетбалістак? За іх спінамі ў «Алімпіі» - толькі моладзь 1985 года нараджэння, якой, відавочна, абараніць мінулагоднія залатыя медалі чэмпіяната Беларусі будзе звышскладана.

Мела намер не вяртацца ў Амерыку, а гуляць у Гродна, адна з лепшых баскетбалістак моладзевай зборнай Беларусі Алена Леўчанка. Яна тыдзень чакала, нават адклада ад'езд, каб кіраўніцтва горада і нашай каманды знайшло час і магчымасць правесці перамовы аб працаўладкаванні Алены ў «Алімпію». Аднак яна гэтага не дачакалася і пакінула нашую краіну.

Здараецца так, што на фоне 1000-1500-ых даляравых кантрактаў баскетбалістаў «Гродна-93» гарадзенская ўлада не можа забяспечыць усю «Алімпію» на месяц заробкам нават аднаго гарадзенскага баскетбаліста.

**Расклад гульняў «Алімпіі» ў VIII чэмпіянаце Балтыйскай Лізе:**

**Санкт-Пецярбург. 29-30 верасня - «Балтыйская-зорка» (Расея)**

**«Хваля» (Расея)**

**Менск. 26-28 кастрычніка - зборная Беларусі (юнацкая)**

**«Пантэрыт» (Фінляндыя)**

**«ТПОАК» (Эстонія)**

**Вільня. 15-16 снежня - зборная Літвы (юнацкая)**

**«Лайсвэ» (Літва)**

**26-27 студзеня 2002 года - «Гімлі баскет» (Нарвегія)**

**«Лінтэл 118» (Літва)**

**Гродна. 23-24 лютага - «ТТТ» (Латвія)**

**«РТУ-Клондайка» (Латвія)**

Фінальны раўнд пройдзе з 29 па 31 сакавіка. У ім возьмуць удзел сем лепшых камандаў першага этапу і чэмпіён Балтыйскай Лігі літоўскі «Тэлекамус».



Ці будзе Таццяна Траско зноў здзіўляць сваім майстэрствам?

## Швецыя знаёміцца з «Гродна-93»

**Сёння, 30 жніўня, баскетбалісты «Гродна-93» накіраваліся ў Швецыю, дзе разам з гаспадарамі «Нарчопінгам», літоўскай «Алітай» і фінскай камандай з 31 жніўня па 2 верасня прымуць удзел у міжнародным турніры.**

У выязны склад гарадзенцаў увайшлі Алег Квашчук, Эдуард Прыйма, Юрый Качан, Арсень Бяссмертны, Юрый Чарняк, Пётр Сарасек, Андрэй Васілеўка, Уладзімір Шарко, Кірыл Місюченка і Эльгеркус Кавалюнас.

Яшчэ двое гарадзенцаў Дзяніс Коршук і Аляксей Пынцікаў - у складзе нашай зборнай спрабуюць выйсці з першага кваліфікацыйнага раўнду чэмпіянату Еўропы. Падапечныя Аляксандра Барысава ў нядзелю былі мацнейшыя за зборную «Азербайджана» - 106:59. Самым выніковым баскетбалістам гульні з 21 ачком стаў Пынцікаў, Коршук «закінуў» дзевяць ачкоў. Аднак, шмат што вырашыла ўчарашняя гульня са сборнай «Грузіі». У апошняй сустрэчы баскетбалісты сустрэнуцца з балгарамі ў суботу.

Па-ранейшаму кіраўніцтва «93-х» вядзе перамовы аб супрацоўніцтве з Арсенем Кучынскім і Алегам Кажанцом. Арсень за гэты час паспяхова з'ездзіў на прагляд у маскоўскае «Дынама». Цяпер ён вагаецца: дзе працягваць кар'еру - у Маскве ці ў Гродне.

Вядуць перамовы гарадзенцы яшчэ з некалькімі баскетбалістамі, імёны якіх пакуль не выдаюцца. Трэба адзначыць, што апошні тэрмін заяўкі баскетбалістаў у Паўночна-Еўрапейскую Баскетбольную Лігу скончваецца 15 верасня.

Тым часам стала вядома дата правядзення Кубку Беларусі. Першы этап Кубку пройдзе 13-16 верасня ў Гомелі, а фінальная частка - 29-30 верасня ў Гродне.

## Дзе грэбля, там і каноэ

**24-27 верасня ў Гродне на рацэ Нёман прайшло першынства горада Гродна па грэблі і каноэ.**

Спаборніцтвы праходзілі ў дзвюх узроставых катэгорыях: старэйшай (узрост дзяцей не менш за 16 гадоў) і малодшай (з 1986 года нараджэння).

У старэйшай групе юнакоў на 200 і 500 метрах перамогу святкаваў Яўген Равенка, на 100 метраў - Андрэй Шпарко.

Двайных перамогаў у адзіночках атрымалі Аляксандр Юрэвіч і Ганна Тарнавіцкая. Яны ў малодшых групах першымі перасеклі фінішную лінію на дыстанцыі 200 і 500 метраў. 1 000 метраў у малодшых юнакоў хутчэй за ўсіх праплыў Артур Крыжэўскі.

У старэйшых дзяўчатаў першае месца на дыстанцыі 200 метраў атрымала Вераніка Ахрэмчык, 500 метраў - Наталля Васільева, 1 000 метраў - Наста Рыльцава.

**Падрыхтаваў**
**Дзяніс Курчэўскі**

ЗЕМЛЯКІ

## Ранішнія апавяданні ў амерыканскім басейне

**Аркадзь Двілянскі - музыка, які нарадзіўся і пэўны час жыў у Лідзе. Пяць год таму ён з'ехаў у Амерыку. У аўторак Аркадзь Двілянскі даваў адзін канцэрт у канцэртнай залі гарадзенскай філармоніі, у сераду - у Лідзе. За гадзіну да гарадзенскага канцэрта мы паразмаўлялі «за жизнь».**

*- Аркадзь, у чым была прычына вашага ад'езду ў ЗША?*

- Я сам ніколі б не з'ехаў, але цяжка захварэў мой цесць. А ягоная сястра жыве ў штаце Канэкцікут. І толькі там, у Амерыцы, цесцю можна было медычна дапамагчы. І яна выклікала ўсю нашую сям'ю.

*- Як часта Вы наведваеце Беларусь?*

- Беларусь - гэта мая Радзіма. І я перажываю невыказнае пачуццё кожны раз, калі прыязджаю сюды. За пяць год жыцця там, у Беларусі я ўжо трэці раз.

*- Вы - музыка, кампазітар, выканаўца, музыказнавец. Як змаглі рэалізаваць сябе ў новай краіне?*

- Першы год быў фантастычна цяжкім, не было працы, усе мы адчувалі сябе няўстойліва і няўпэўнена. А потым я адтаў, прапала гэтая боязь тэлефону, крамаў, засвоіў мову (Двілянскі ўжо размаўляе з амерыканскім акцэнтам! - заўв.аўт.). Сын паступіў у Бостанскі універсітэт. Я знайшоў працу ратавальнікам у басейне. Да таго настройваю фартэпіяна. Жонка працуе ў буйной камп'ютарнай фірме сакратаркай, у балетнай школе акампаніятарам і дае прыватныя ўрокі па музыцы.

*- А як жа творчасць?*

- Год таму я атрымаў запрашэнне на месца доктара музыкі Рычфілдскай кансерваторыі. У Амерыцы для мяне адкрыўся жанр мастацкай прозы. Я думаю, гэта з-за стрэсаў і хваляванняў, звязаных з пераездам. Мой працоўны дзень ратавальніка ў басейне пачынаецца ў пяць гадзінаў раніцы. Вось тады я, услед за Хэмінгуэем і Фолкнерам, ацаніў плён ранніх гадзінаў. Так і напісаў два зборнікі апавяданняў. Разам з рэжысёрам Віктарам Шпільбергам напісаў мюзікл «Блукаючыя зоркі» на твор Шалом-Алейхема. Мюзікл наш пастаўлены на Брадвеі. Акрамя таго, мяне ў Амерыцы абралі старшынём «Беларускага саюза песні».

*- Як адчувае сябе творчы чалавек у гэтай краіне разгулу дэмакратыі? У нас нават афіцыйныя асобы схільныя бачыць у амерыканскім ладзе жыцця адно толькі шкоду для беларусаў...*

- Амерыканская дэмакратыя мае такія плюсы, што ўсе, хто яе лае, груба кажучы, павінны пазачыняць рты. Амерыканскай канстытуцыі 150 год - гэта пра што гаворыць? Пра тое, што кіруюць гэтай краінай людзі, дастойныя дэмакратыі, якія проста ўмеюць кіраваць. У нас жа кіруе не дастойны, а бяздарны і надуты. А часцяком, паводле запавету Леніна, «кухарка» выдае законы. Многія пытаюцца: чаму тут так усё дрэнна? Наш народ не любіць і не ўмее вучыцца ў другіх народаў - вось дзе карэнне зла. Беларусь - такая багатая краіна, тут жывуць высокаінтэлектуальныя людзі - а жыццё такое страшнае. Народ дзесьці сам вінаваты. У Стэнфардзе, дзе я жыву, гарадку па памерах блізкім да Ліды, - чатыры дзеючыя сінагогі. А ў нас колькі?

*- Для вас важна, як пройдуць выбары ў Беларусі?*

- Безумоўна, мяне гэта хвалюе. Я сачу за тым, што тут адбываецца, думаю пра Беларусь і пішу пра яе песні і вершы. Я не магу судзіць, хто лепшы з кандыдатаў. Аднак хацелася б, каб жыццё тут палепшылася.

**Алена Сіневіч**

**На здымку: Аркадзь Двілянскі каля Лідскага замку**



ПАГОНЯ
Заснавальнік: Гродзенскае грамадскае аб'яднанне "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 29.08.2001 г. Замова 2434 Наклад 7 875

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - тры ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Ірына Салей
Камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей